**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№11(675)**
**14 сакавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



# На роварах з Мінска ў Мосар!



У Мосары мы напаткалі групу маладых людзей: двух хлопцаў і дзяўчыну, якія прыехалі сюды на роварах з Мінска.

– І колькі ж часу дабіраліся?– пытаемся.

– Учора раніцай выехалі, уночы спыніліся ў знаёмых па дарозе, а вось сёння, а 16-й, дабраліся да Мосара.

– І куды далей?

– У Паставы. Там заначуем. А ўжо заўтра, праз Мядзел, на Мінск.

– Вы прадстаўляеце нейкую спартыўную арганізацыю?

– Не! Проста сабраліся і паехалі. Але, тым не менш, прымаем чынны ўдзел у розных спартыўных мерапрыемствах.

Як бачым, і на ровары можна з'ехаць на край свету, а сцюдзёнае надвор'е – не перашкода!

*Уладзімір Скрабатун.*

# Месячнік па пажарнай бяспецы

**На тэрыторыі Віцебскай вобласці, роўна як і на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, на першы дзень бягучага месяца склалася трывожнае становішча з пажарамі і гібеллю людзей на іх. Так, за два месяцы 2013 года ў раёне адбылося 14 пажараў, на іх загінулі 3 чалавекі.**

У сувязі з гэтым з мэтай папярэджання пажараў і гібелі людзей на іх з 01 па 31 сакавіка 2013 года ў Віцебскай вобласці праводзіцца месячнік па навучанні насельніцтва правілам пажарнай бяспекі ў побыце і на вытворчасці.

У гэты час праводзіцца вялікі аб'ём прафілактычных работ. У прыватнасці, інспектары інспекцыі Дзяржпажнагляду наведваюць прадпрыемствы і арганізацыі, правяраюць стан супрацьпажарнай бяспекі, праводзяць інструктажы, гутаркі, лекцыі. Праводзіцца агульнае абследаванне прыватных домаўласніцтваў на прадмет выканання нормаў і правіл пажарнай бяспекі. Правядзенню гэтага месячніка асаблівую ўвагу павінны надаць кіраўнікі працоўных калектываў. Ім неабходна правесці пазачарговыя інструктажы са спецыялістамі і працоўнымі, паклапаціцца пра ўмацаванне матэрыяльнай базы па супрацьпажарнай бяспецы.

**Ваша зацікаўленасць стане гарантам Вашай бяспекі.**

***А. Андрыеўскі,*** *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС.*

**Шумілінскі раён**

# Даўгі быццам гіры

■ Чэслаў Якубовіч

**Не ад добрага жыцця цяпер паўсюдна патрэбна праводзіць мадэрнізацыю прамысловых прадпрыемстваў.**

Вось і на Обальскім керамічным заводзе, што ў Шумілінскім раёне, знос асноўнага абсталявання двух вядучых цэхаў наблізіўся да 85 працэнтаў. Яшчэ летам летась адсюль з-за мізэрных заробкаў звольнілася амаль 200 чалавек. Прадпрыемству ў цяжкай сітуацыі аказалі дапамогу і з абласнога інвестфонда выдзелілі сродкі на набыццё новага прэса для вырабу цэглы і яшчэ некалькі новых механізмаў. У выніку пад канец года ўдалося знізіць ранейшыя вялізныя страты нават у 7 разоў. Аднак сітуацыя на прадпрыемстве па-ранейшаму няпростая. Цяжкім грузам ціснe на завадчан тое, што патрэбна неяк вяртаць папярэднія даўгі на суму амаль 50 млрд. рублёў, пераважна за спажытыя энергарэсурсы. Прыйшлося напрыканцы года закрыць цэх № 2 на неабходны рамонт, з-за чаго вытворчыя магутнасці завода задзейнічаны крыху болей на трэць. Адпаведна ўпалі аб'ёмы выпрацоўкі і адгрузкі гатовай прадукцыі. Як выхад, на заводзе ў Обалі важна як мага хутчэй правесці мадэрнізацыю вытворчасці, устанавіць тут новыя энергаёмкія лініі паўсухога фармавання цэглы. Аднак пошук патэнцыйных партнёраў і інвестараў для калектыву ўскладняецца накопленымі вялікімі даўгамі. Бізнес-план для завода па выхаду на рэнтабельную плённую дзейнасць дапамаглі скласці фірмы з Германіі і Украіны. Вядома і што, і дзе неабходна набыць, адна загвоздка: дзе ўзяць столькі грошай і які з айчынных альбо замежных банкаў возьмецца пракрэдытаваць гэты праект?

**Пастаўскі раён**

# З рамонтам спазніліся

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам агромістыя сродкі ўклалі ў айчынную сельскую гаспадарку і сур'ёзна абнавілі ў ёй тэхніку.** Толькі ў Пастаўскім раёне гаспадаркі летась атрымалі яшчэ 18 новых трактараў, 9 камбайнаў, 6 камбінаваных пасяўных агрэгатаў і столькі ж пагрузчыкаў, раскідвальнікаў угнаеняў і больш 40 адзінак іншых агрэгатаў. Да прадстаячай веснавой сяўбы ставілася задача адрамантаваць да 1 сакавіка наяўны машынна-трактарны парк. Аднак калі рэйдавая група наведала сельгаспрадпрыемства "Янавіца-агра" (у мінулым калгас імя Заслонава), то атрымала сапраўдны шок. Тут нават напрыканцы зімы не прыступалі да рамонту тэхнікі, на нешта спадзяваліся. У выніку - 10 трактароў, палова ад дзеючых і два пасяўныя агрэгаты, сеялкі былі няспраўныя. Аналагічны малюнак у раёне назіраўся і ў такіх гаспадарках як "Блакітныя азёры", "Парыж-агра", "Андроны". У апошняй з іх некалькі месяцаў няма кіраўніка, жадаючых сесці ў крэсла старшыні не знаходзіцца. У спіс праваліўшых рамонт сельгастэхнікі трапіла і адна з буйнейшых у Беларусі гаспадарак, некалі адзін з флагманаў айчыннага АПК ААТ "Камайскі-агра". Нізкая гатоўнасць трактароў і пасяўных агрэгатаў ад 50 да 80 % таксама яшчэ ў чатырох гаспадарак краю. Такое становішча склалася таму, што большасць вяскоўцаў па завядзёнцы чакалі атрымання значных крэдытаў на падрыхтоўку да сяўбы, а было выдзелена са скрыпам з бюджэту толькі 745 млн. рублёў. Надоі на фермах шмат дзе нізкія, грошай няма адкуль браць. А сёлета на Пастаўшчыне вясной неабходна будзе пасеяць яшчэ 15 тысяч гектараў зярнявых, шмат палеткаў узараць, а з такім падыходам палявыя работы могуць расцягнуцца і да пачатку лета…

**Полацкі раён**

# У дыяцэзіі – часовы кіраўнік

■ Станіслаў Раманчук

**Сёлета перыяд Вялікага посту ў каталіцкіх вернікаў супаў з шэрагам неардынарных падзей.**

Так атрымалася, што напярэдадні сваёй адстаўкі Папа Рымскі Бенедзікт XVI задаволіў просьбу аб вызваленні ад займаемай пасады біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслава Бліна. Апошнім часам гэты 58-гадовы святар хварэў, урачы выявілі ў яго сур'ёзнае захворванне, таму яму патрэбен працяглы курс лячэння ў адной з клінік ЗША. На сваёй адказнай пасадзе біскуп адпрацаваў звыш 13 гадоў, пры ім каталіцкі касцёл пашырыў свой уплыў на Віцебшчыне, дзякуючы яму тут быў асвечаны і адкрыты 21 новы храм. У адпаведнасці з кананічным правам часовым кіраўніком дыяцэзіі Ватыкан прызначыў Апостальскім адміністратарам 54-гадовага ксяндза-прэлата з Полацка Францішка Кісяля. Ён нарадзіўся ў Глыбоцкім раёне, а дагэтуль выконваў абавязкі яшчэ генеральнага вікарыя дыяцэзіі. Пасля сканчэння школы юнаком атрымаў дыплом Віцебскага тэхнікума электрасувязі, а потым адслужыў у Савецкай Арміі і адчуў духоўнае пакліканне. Францішак паступіў і праз 5 гадоў скончыў Рыжскую вышэйшую духоўную семінарыю, маладым святаром нёс службу ў касцёле-санктуарыі ў латвійскім горадзе Аглонe. Затым ксяндза перавялі на службу ў каталіцкі касцёл у Браславе, а апошнія 20 гадоў душпастырскай дзейнасці былі звязаны з горадам над Дзвіной, дзе пад кіраўніцтвам айца Францішка паўсталі новы храм А. Баболі і парафія ў суседнім Наваполацку. Чакаецца, што бліжэй да восені ў Віцебскай дыяцэзіі будзе прызначаны новым Папам Рымскім пастаянны яе кіраўнік.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 14.03.13 03:00 | Чацвер 09:00 | Чацвер 15:00 | Чацвер 21:00 | Пятніца 15.03.13 03:00 | Пятніца 09:00 | Пятніца 15:00 | Пятніца 21:00 | Субота 16.03.13 03:00 | Субота 09:00 | Субота 15:00 | Субота 21:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -9 | -3 | -6 | -12 | -11 | -6 | -9 | -13 | -13 | -6 | -8 |
| Ціск | 739 | 738 | 739 | 741 | 740 | 736 | 733 | 733 | 735 | 738 | 742 | 747 |
| Вільготнасць | 93 | 95 | 76 | 67 | 80 | 83 | 84 | 82 | 90 | 88 | 79 | 60 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 5 Пн | 3 Пн-У | 6 Пн-У | 7 Пн-У | 10 Пн-У | 10 Пн | 9 Пн | 7 Пн | 7 Пн | 3 Пн |

| Мясцовы час | Нядзеля 17.03.13 03:00 | Нядзеля 09:00 | Нядзеля 15:00 | Нядзеля 21:00 | Пнд 18.03.13 03:00 | Пнд 09:00 | Пнд 15:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хмарнасць | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература | -12 | -13 | -6 | -13 | -19 | -17 | -7 |
| Ціск | 749 | 751 | 751 | 753 | 753 | 752 | 752 |
| Вільготнасць | 82 | 86 | 65 | 65 | 81 | 87 | 68 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 4 Пн-З | 4 Пн | 1 Пд-У | 2 Пд-З | 1 З | 1 Пд |

**Аб самым надзённым**

# ПАСТАЯННЫ РОСТ ЦЭН НА ХАРЧАВАННЕ ЯСКРАВА СВЕДЧЫЦЬ АБ СТАНЕ АЙЧЫННАЙ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Але самае сумнае, што нам, радавым спажыўцам з гарадоў і пасёлкаў прадукты харчавання выгадней і значна танней купляць за мяжой. Для гэтага далёка ехаць не трэба, беларусы з візамі абавязкова затарваюцца харчаваннем у супермаркетах Польшчы, Літвы, Латвіі і не толькі.**

Адрозненне Беларусі ад сваіх бліжэйшых суседзяў у тым, што мы любім падкрэсліваць сваю асаблівую адметнасць развіцця і тым, што поўнасцю забяспечылі ўласную харчовую бяспеку. Дзякуючы выбранаму курсу, як нам расказваюць, айчынны АПК адным з першых на прасторах СНД дасягнуў і перавысіў ўзровень дакрызіснага 1990 года, а гэта сфера ўпершыню яшчэ 9 гадоў назад выйшла на станоўчую рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі палёў і ферм (7,5 % у 2004 годзе). І ўсё б было добра, каб не праклятыя калдобіны на сельскіх дарогах.

Справа ў тым, што сёлета толькі ў студзені прадукты харчавання зноў падаражэлі для беларусаў на 3,1 %. Парадокс ды толькі, паколькі ў мінулым годзе на экспарт наша краіна адгрузіла мяса і малака на 25 % болей. Але што з гэтага нам, бо спажывецкія цэны за год павялічыліся на 21,8 % - паказчык інфляцыі проста неверагодны для еўрапейцаў і нават для Расіі з Украінай. Як вядома, яшчэ на так званым Усебеларускім народным сходзе восенню 2010 года паставілі перад вяскоўцамі грандыёзную задачу: да канца чарговай пяцігодкі выйсці на знешнегандлёвы абарот АПК у памеры 7 млрд. долараў.

Станоўчае сальда знешняга гандлю пры гэтым павінна скласці 4 млрд. USD. Аднак складваецца ўражанне, што такія заданні вырашаюцца за кошт нас з вамі, кашалькоў простых грамадзян. Раней са савецкім часам за кошт аграблення вёскі вырашалі задачы сталінскай індустрыялізацыі, пасляваеннага аднаўлення, касмічнага суперніцтва з ЗША, падтрымкі сусветнага камуністычнага руху і шмат чаго іншага, што прыходзіла ў галаву прэстарэлым крамлёўскім бонзам.

Вядома, на двары новы час XXI стагоддзя, але планаў зноў "громадзьё", як і пераможных рэляцый. Да прыкладу, сцвярджаюць, што па вытворчасці бульбы на душу насельніцтва Беларусь выйшла на 1-е месца ў свеце, па вытворчасці мяса і малака – наша сінявокая зноў першая сярод дзяржаў СНД. І толькі па збожжу трэба падцягнуцца, бо па вытворчасці зерня на душу насельніцтва Беларусь на 3-м месцы ў СНД і прайграе Казахстану і Украіне. І верагодна гэта так, а галоўнае, што дасягнутую вытворчасць патрэбна яшчэ больш павялічваць.

Ды вось бяда: рост вытворчасці ў сельскай гаспадарцы і ў іншых сектарах беларускай эканомікі не прыводзіць да галоўнай мэты – павышэння ўзроўню і якасці жыцця беларусаў, з якіх 35 % насельніцтва РБ адносяць сябе да бедных і нават да жабракоў. Унікальнасць існуючай у нас мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў тым, што дысбалансы ў сферы АПК толькі павялічваюцца. Справа ў тым, што апошні дзеючы наш прэм'ер М. Мясніковіч, калі заступіў на сваю пасаду ў канцы 2010 года, то даў ацэнку эканоміке айчынных сельскіх гаспадарак як дрэнную з-за вялізных даўгоў.

Аднак на той момант запазычанасць беларускіх калгасаў па крэдытах, займах, за паліўна-энергетычныя рэсурсы, падатках, зборах, сацзабеспячэнні складала 18,1 трлн. рублёў. Думаеце, што-небудзь тут змянілася? Наадварот за 2 апошнія гады сітуацыя толькі пагоршылася, паколькі ў канцы 2012 года крэдыторская запазычанасць беларускіх сельгаспрадпрыемстваў вырасла да 25,2 трыльёнаў рублёў, пратэрмінаваныя даўгі дасягнулі 4 трлн. Дзіўна, што летась, па дадзеных Белстата, ва ўсіх катэгорыях гаспадарак Беларусі вытворчасць прадукцыі вырасла на 6,1 %.

У Год беражлівасці нас з вамі прымусяць жыць па сродках. І невыпадкова растуць цэны пры рынкавым сацыялізме хоць і вёску адрадзілі на паперы ў выглядзе 1500 аграгарадкоў і стварылі базу для ўстойлівага развіцця АПК . Але самае сумнае, што нам, радавым спажыўцам з гарадоў і пасёлкаў прадукты харчавання выгадней і значна танней купляць за мяжой. Для гэтага далёка ехаць не трэба, беларусы з візамі абавязкова затарваюцца харчаваннем у супермаркетах Польшчы, Літвы, Латвіі і не толькі. У нас ідуць сваёй дарогай і толькі ў 2011 годзе яшчэ 38 дабітых да ручкі калгасаў далучылі на Віцебшчыне да эканамічна моцных прадпрыемстваў.

Летась адзін толькі Віцебскі мясакамбінат атрымаў пад сваё крыло два буйныя стратныя свінакомплексы з Сенненскага і Гарадоцкага раёнаў. Сёлета яшчэ больш 50 захірэлых сельгасарганізацый з мільярднымі даўгамі далучаць па загадзе да розных суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку і рэспубліканскай уласнасці. Напярэдадні веснавой сяўбы быў праведзены маніторынг, які выявіў шмат дзе ў нашай вобласці шматлікія факты дрэннага захоўвання зерня і ўгнаенняў, сельгастэхнікі, нерацыянальнага выкарыстання матэрыяльных каштоўнасцей. І таму рост цэн на харчаванне цалкам заканамерны.

## Дзень за днём

**На абсягах былога СССР і сёлета Беларусь зноў "першая" па росце цэн. Працэс інтэграцыі з Расіяй паскорыўся, калі беларусы сталі часткай холдынга "Росбелаўта" і пакінулі сабе толькі 25 % акцый МАЗа. Мясцовым уладам дазволяць у Беларусі рэгуляваць асобныя тарыфы на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, з 2016 года беларусы стануць плаціць за электрычнасць па сабекошце. Ужо 42 тысячы грамадзян Беларусі атрымалі карту паляка, а 2,5 тысячы беларусаў штогод эмігруюць за Буг. Мяса на рынках пакуль не падаражэла, бо новыя правілы забою жывёлы пачнуць дзейнічаць з 1 мая, а вось радыёкропкі адключаць да канца 2014 года. Паўсюдна для падлеткаў ад 15 гадоў сёлета будуць створаны летам лагеры працы і адпачынку.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Свет устрывожыла ўстаноўка тут на ядзерным аб'екце газавых цэнтрыфуг новага пакалення для ўзбагачэння ўрану ў 2-3 разы хутчэй папярэдніх для вырабу атамных бомб.

**ЗША.** У выніку дамоўленасці аб аб'яднанні гігантаў перавозак "American Airlines" і "US Airways" з капіталам 11 мільярдаў долараў утварылася буйнейшая ў свеце авіяцыйная кампанія.

**Сірыя.** Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Наві Пілай заклікала расследваць ваенныя злачынствы рэжыму Б. Асада супраць чалавечнасці і судзіць за гэта дыктатара.

**Венесуэла.** Пасля дэвальвацыі нацвалюты ў магазінах былі вялікія чэргі, людзі раскупілі імпартныя тавары.

**Куба.** Прэстарэлага 81-гадовага Рауля Кастра абралі кіраваць вельмі бедным краінай яшчэ на 5-гадовы тэрмін, пры ім пачаліся асобныя рынкавыя рэформы ў гандлі, сферы паслуг.

**Украіна.** Еўрасаюз, як заявіў камісар ЕС па энергетыцы Гюнтэр Этынгер, падтрымае краіну ў мадэрнізацыі яе газавага сектара і доступу на супольны газавы рынак Еўропы.

**Расія.** Колькасць доларавых мільярдэраў дасягнула гістарычнага рэкорда – 131 чалавек, а знешнія даўгі РФ дасягнулі 624 мільярда долараў, на 16,1 % болей золатавалютных рэзерваў.

**Германія.** У горадзе Юліх запусцілі самы магутны ў Еўропе суперкамп'ютар з хуткасцю 5,9 тысяч трыльёнаў аперацый у секунду, сістэма дасягнула піку за некалькі месяцаў.

**Казахстан.** Урад краіны дамовіўся з Расіяй аб далейшым выкарыстанні "Роскосмасам" касмадрома Байканур пры ўмове паступовай адмовы расіян ад шэрагу ягоных аб'ектаў.

**Канада.** Услед за іншымі краінамі свету нацбанк краіны перайшоў на пластыкавыя вадастойкія грошы, надрукаваныя канадскія долары на тонкай палімернай плёнцы.

**Бельгія.** Дзёрзскім чынам 8 узброеных злачынцаў без адзінага стрэлу абрабавалі ў аэрапорце Бруселя прыляцеўшы з Цюрыха самалёт у момант выгрузкі з яго алмазаў.

**Ватыкан.** Пасля адстаўкі папа Бенедзікт XVI стаў ганаровым біскупам Рыма і пачаў весці закрыты для знешняга свету вобраз жыцця, яму прызначылі пенсію 2,5 тысячы еўра.

**Іран.** Услед за лялькай Барбі і лялькамі-героямі амерыканскіх мультфільмаў улады краіны забаранілі прадаваць і статуэткі бога Будды, як варожаму ісламскім канонам сімвала веры.

**Мексіка.** Мэр сталіцы Мехіка Анхель Мансера разрэзаў вялізны торт падчас рэкорднай цырымоніі заключэння шлюбу адразу 412 маладых пар у ходзе калектыўнага вяселля.

**Расія.** Вядомы кандытарскі канцэрн "Бабаеўскі" прыпыніў пастаўкі сваёй прадукцыі ў Беларусь, раней ён хацеў укласці сродкі ў нацыяналізаваную там фабрыку "Камунарка".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі РБ Мікалай Снапкоў шчыра папярэдзіў, што Беларусі сёлета рэальна пагражае рост яшчэ на 5 млрд. $ знешняга доўгу і новая дэвальвацыя нацвалюты.

**Баранавічы.** Кантрольны пакет акцый стратнага ААТ "Баранавічыдрэў" (страты 8,5 мільярда рублёў), як заявіў віцэ-прэм'ер урада РБ А. Калінін, вырашыла забраць сабе дзяржава.

**Бабруйск.** Да канца сакавіка ўрад Беларусі вырашыў вярнуць сабе кантрольны пакет акцый паспяховага ААТ "Чырвоны харчавік" і сталічнай абутковай фабрыкі "Прамень".

**Жыткавічы.** Жыхары раёна і суседняга Петрыкаўскага першымі ў РБ сутыкнуліся з веснавой вялікай паводкай пасля разліву рэк Прыпяць і Пціч і выхаду вады на пойму.

**Гродна.** Межгарнізонны ваенны суд пакараў 2 гадамі турмы дзяжурнага прапаршчыка, які не паведаміў далей пра швецкі самалёт, які перасёк граніцу і скінуў плюшавых мядзведзяў.

**Абчак.** У гарпасёлку пад Мінскам на базе Ford Transit на заводзе "Юнісан" стварылі новы ўтульны беларускі маршрутны аўтобус "Юнілайн 3595" на 22 пасажырскія месцы.

**Мінск.** Заслужаны юрыст РБ, прафесар Міхаіл Пастухоў запатрабаваў убраць жалезныя клеткі ў судах Беларусі, такой практыкі зневажання людзей няма нідзе болей у Еўропе.

**Столін.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць 14-гадовай школьніцы, якая дома ўдарыла нажом падчас сваркі свайго знаёмага хлопца, таксама школьніка.

**Мазыр.** За атрыманне тройчы хабару ў буйным памеры суд пакараў былога намесніка мясцовай калоніі № 20 7 гадамі пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

**Мінск.** У Год беражлівасці для рэзідэнцыі кіраўніка РБ набылі спецыяльна ў Ізраілі некалькі камплектаў сучасных супрацьтаранных ахоўных дарожных блакатараў.

**Петрыкаў.** Дзікая выхадка трох п'яных хлопцаў ва ўзросце 16-18 гадоў, якія закідалі камянямі машыну ДАІ, можа абысціся ім вельмі дорага па справе за злосную хуліганства.

**Ляхавічы.** Адзін з прыгажэйшых на Брэстчыне палаца-паркавы ансамбль "Савейкі" пабудовы XVIII стагоддзя плошчай 11 гектараў прадалі на аўкцыёне за 200 тысяч долараў.

**Быхаў.** Толькі за адзін месяц мясцовыя жыхары і іншыя суайчыннікі сабралі 45 мільёнаў рублёў ахвяраванняў на рэканструкцыю адзінага ў РБ горада-крэпасці, які захаваўся тут.

**Мінск.** Прарасійскі палітолаг У. Шымаў абурыўся ў "СБ", чаму ў Беларусі дагэтуль лічаць нацыянальным героем Кастуся Каліноўскага, бо беларусы тады быццам падтрымалі цара.

**Стайкі.** Ва ўзросце 20 гадоў раптоўна памёр у сне пасля трэніроўкі на вучэбных зборах штангіст, кандыдат у зборную Беларусі, студэнт Акадэміі кіравання Яўген Шрамко.

# Вішнёвы фэст у Глыбокім прызначаны на другую палову ліпеня



■ Дар'я Міхайлоўская

**Фестываль вішні ў Глыбокім адбудзецца прыкладна паміж 15 і 30 ліпенем 2013 года, распавёў парталу Tio.by начальнік аддзела спорту і турызму Глыбоцкага райвыканкама Міхаіл Арэхаў.**

Для новага вішнёвага саду ўлады ўжо вызначылі месца - недалёка ад дзеючага дэндрапарка, які з'яўляецца гонарам жыхароў Глыбокага.

«Усе жадаючыя змогуць прыехаць у красавіку ў Глыбокае (канкрэтныя даты будуць вызначаны пазней) і прывезці з сабой саджанцы вішань, - адзначыў ён. - А затым адбудзецца масавая пасадка дрэваў, прычым, сад будзе мець форму сонца з 13 прамянямі па колькасці сельсаветаў Глыбоцкага раёна». Цікава, што каля кожнага саджанца будзе стаяць імянная таблічка, і той, хто яго пасадзіў, зможа прыходзіць ці прыязджаць і даглядаць за сваім гадаванцам

Міхаіл Арэхаў патлумачыў, чаму менавіта вішня стала брэндам горада і асновай для фестывалю: «Справа ў тым, што ўсе гатункі вішні ў Беларусі выведзены на аснове так званай « кіслай вішні », якая расце ў Глыбокім, хоць на самай справе яна зусім не кіслая. А з'явілася мода на вішнёвыя сады дзякуючы заможным людзям, што акружалі свае маёнткі вялікай колькасцю гэтых выдатных дрэў. Так было да 1939 года, а затым большасць прадстаўнікоў багатага саслоўя з'ехала, і дрэвы разабралі мясцовыя жыхары. З тых часоў так і павялося, усё вырошчваюць вішню. Цяпер, як толькі яна паспявае, усе выходзяць на базар і прадаюць ягады вёдрамі. За вішняй прыязджаюць не толькі з усіх гарадоў Віцебшчыны, але і з Расіі. Ураджайнасць вельмі высокая. Да прыкладу, я сам з аднаго дрэва ў мінулым годзе сабраў 10 вёдраў вішні! »

Да фестывалю актыўна рыхтуюцца ўсе прамысловыя прадпрыемствы Глыбоччыны: хлебазавод будзе выпускаць піроржныя з вішанькай, печыва ў форме вішні і іншыя прысмакі, малочны камбінат збіраецца асвоіць выпуск згушчаніны з вішняй, кансервавы завод парадуе гасцей свята смачнымі варэннем і джэмам ...Сам фестываль зацікавіць гасцей займальнай праграмай. Запланаваны шматлікія мерапрыемствы: вішнёвае шэсце і абранне вішнёвай каралевы, міжнародны кірмаш, спаборніцтвы па хуткасным паяданні вішань і стральбе костачкамі, пленэр юных мастакоў, тэатральны форум са знакавай назвай «Вішнёвы сад», конкурсы ландшафтных кампазіцый, цырульніцкага мастацтва, продаж сувеніраў і іншае. Пройдзе вясёлы конкурс на лепшага турыста і аўкцыён па продажы апошняга вядра вішні. Таму, хто пераможа ў барацьбе за права валодання гэтым вядром, будзе прадастаўлена права бясплатнага наведвання фестывалю на наступны год.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** З-за недахопу сродкаў на праграму развіцця малочнай галіны Віцебшчыны на трох фермах у раёне не будзе сучасных даільных залаў, пройдзе толькі іх рэканструкцыя.

**Паставы.** З-за адсутнасці камплектуючых і рашэння Мінпрама РБ сканцэнтраваць выпуск тэлевізараў у Віцебску спынілі працу цэхі філіяла холдынга "Гарызонт" – завода "Беліт".

**Кохонава.** Мясцовы льнозавод, як і іншыя ў галіне, апынуўся на мяжы краху з-за даўгоў і недахопу рабочых рук, бо з-за нізкіх заробкаў (да 1,9 мільёна рублёў) людзі бягуць адсюль.

**Віцебск.** Ужо больш 90 тысяч сем'яў вобласці падключыліся да лічбавага інтэрактыўнага тэлебачання ZALA, для абанентаў ёсць 107 кропак безправаднога злучэння з Інтэрнетам.

**Расоны.** У выніку прарыва трубаправода зношанай трубы ўвесь райцэнтр на нейкі час застаўся без цяпла, ацяпленне ў звычайным рэжыме аднавілі пасля завяршэння рамонту.

**Глыбокае.** З-за кароткага замыкання электраправодкі днём загарэўся жылы дом у райцэнтры, 70-гадовы яго гаспадар не пацярпеў, але яго будынак застаўся без даху.

**Шуміліна.** Амаль 250 мільёнаў рублёў дазволіў сэканоміць райкамунгасу першы ў Беларусі мабільны энерганасычаны нямецкі здрабняльнік драўніны для вырабу шчапы на кацельні.

**Верхнядзвінск.** Па гарачых слядах міліцыя адшукала і затрымала 28-гадовую раней судзімую жанчыну, якая ў гасцініцы скрала ў рабочага з Полацка наўтбук і мабільнік.

**Наваполацк.** На вечары працоўнай славы гарадскія прэміі "Залатыя рукі" ўручылі 10 лепшым рабочым, яшчэ 10 калектываў будуць прадстаўлены на гарадской Дошцы гонару.

**Шаркаўшчына.** Супраць жыхара райцэнтра, супрацоўніка банка распачалі крымінальную справу за крадзеж з незапатрабаваных карт-рахункаў кліентаў 421,7 млн. рублёў.

**Віцебск.** Пажарныя выратавалі ад гібелі на пажары ў шматпавярхоўцы на Маскоўскім праспекце сям'ю пенсіянераў, якія знаходзіліся ў стане без прытомнасці і эвакуіравалі яшчэ 30 іх суседзяў.

**Сянно.** Абласны суд направіў 62-гадовага забойцу дзяўчыны, былога агранома пажыццёва на лячэнне ў псіхіятрычную бальніцу, бо ён хворы псіхічна і небяспечны для грамадства.

**Дуброўна.** На трасе Брэст-Масква каля вёскі Буда міліцыя затрымала 25-гадовую жанчынупрадпрымальніцу з Оршы, якая везла без адпаведных дакументаў 5,3 тысячы пачак кавы.

**Віцебск.** Ветэксперты за выявіла, што прычынай гібелі паўсотні качак стала іх атраўленне хлорыстым натрыем, паколькі людзі часта кармілі птушак чыпсамі і салёнымі сухарыкамі.

**Бешанковічы.** Мярзотнікі паранілі ручнога маладога аленя, але добрыя людзі, да якіх ён прыйшоў за дапамогай, выратавалі звера, даставілі на лячэнне ў заапарк Віцебска, дзе ён цяпер і жыве.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Ксёндз Аляксей Юркайць,
*адміністратар парафіі Мосар.*

## Новапрэзбітар Даніла Мыслянцавы да Мосарскіх вернікаў:

# "Вы будзеце рукамі Хрыста"

**Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1917 годзе бальшавікі пачалі зачыняць касцёлы, святароў вывозіць у Сібір і мільёны людзей сталі ахвярамі рэпрэсій таталітарнага рэжыму. Святароў саджалі ў вязніцы, ссылалі на катаржныя працы ці ўвогуле расстрэльвалі. З касцёлаў рабілі спартыўныя залы, клубы, зернясховішчы, цахі заводаў або проста ўзрывалі.**

Толькі пад канец 80-ых гг. улады дазволілі адчыніць касцёлы, вызнаваць веру і адпраўляць набажэнствы. Першы сакратар камуністычнай партыі Міхаіл Гарбачоў выдаў закон "Аб вольнасці сумлення", у якім сцвярджаў, што веруючым людзям зноў дазволена вызнаваць сваю веру, а святарам – адпраўляць публічныя набажэнствы і катэхізаваць дзяцей і моладзь.

Пасля жнівеньскага путча ў 1991 г. у Маскве і забароны дзейнасці КПСС на дзяржаўных установах і арганізацыях ужо недзе пачалі знімаць камуністычныя сімвалы, з брамаў многіх прадпрыемстваў зніклі савецкія зоркі, аднак на руінах былога Саюза ўсё яшчэ "блукае прывід" Сярпа і Молата, Штыка і Мяча, але ўсёж-такі недзе ў постсавецкай прасторы на гарызонце ўжо віднеецца і ззяе Крыж, знак Хрыстовага збаўлення!

(***)

…Пасля распаду СССР у Расіі на Урале ў горадзе Пярмі, што знаходзіцца за паўтары тысячы кіламетраў ад Масквы, студэнты гістарычнага факультэта праводзілі археалагічныя раскопкі і знайшлі ўкрыжаванне Хрыста. За 70 гадоў драўляныя элементы крыжа былі знішчаныя, засталася толькі фігурка Хрыста, але была яна без рук. Па надпісу "INRI" на ўкрыжаванні два хлопцы здагадаліся, што гэта каталіцкае распяцце. Пашкадаваўшы яго здаваць у музей, яны прыйшлі да адроджанага касцёла ў Пярмі і кажуць: "Мы знайшлі Хрыста", - і аддалі старажытнае ўкрыжаванне – фігурку Хрыста без рук – святару.

Праз год гэтыя студэнты зноў прыйшлі да святара і кажуць: "Мы знайшлі Хрыста".

"Я памятаю" – кажа святар. "Мы сапраўды яго знайшлі", – зноў кажуць хлопцы – "Мы хочам хрысціцца".

Удзяліўшы хрост, святар звяртае іхнюю ўвагу: "Хрыстос ужо не мае рук, таму вы будзеце Ягонымі рукамі"…



(***)

Святар Даніла таксама ў юнацкія гады ў Расіі знайшоў Хрыста, "прайшоў" доўгі шлях падрыхтоўкі і тры месяцы таму, 8 снежня, з рук ксяндза біскупа Уладзіслава Бліна – Ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі на пенсіі атрымаў святарскае пасвячэнне. "Ego sum sacerdos" – гэты незвычайны дар, які абавязвае быць слугою Хрыста, быць Яго "рукамі", каб служыць, як інструмент Божай любові для збаўлення людзей і ўсяго свету.



Новапрэзбітар Даніла Мыслянцавы, вікарый Пастаўскай парафіі, 9 сакавіка ў перыяд Вялікага посту прыбыў у Мосар, каб падчас духоўных практыкаванняў (рэкалекцый) удзяліць прыміцыйнае благаслаўленне.

Новапрэзбітар спавядаў, супольна маліўся, целебраваў урачыстую святую Імшу і прамаўляў велікапосныя навукі – наблізіў гэтую вялікую радасць хрысціянскага паклікання – "быць рукамі Хрыста, Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрослага"!

Напрыканцы літургіі новапрэзбітару падзякавалі за праведзеныя рэкалекцыі душпастыр парафіі і парафіяне з в. Мосар і в. Савуткі, павіншавалі яго і пажадалі плённага святарскага служэння.

Няхай жа добры Бог адорвае новапрэзбітара Данілу мужнасцю і радасцю ў абвяшчэнні Добрай Навіны і працы на Божай ніве ў Беларусі, а ўсім нам "быць рукамі Укрыжаванага і Уваскрослага Хрыста"!

***Падрабязная інфармацыя на сайце:***

**http://mosar.vickyblog.com**

■ Людміла Ардынская,
*вёска Радзюкі.*

## Палеміка

# Дабрыні апаленыя крылы

Нельга не пагадзіцца з паважанай Адай Эльеўнай Райчонак у тым, што беларусы не абыякавічы (цікавае словаўтварэнне)) і не "пафігісты" (гэта ўжо маладзевы жаргон). Мы талерантныя, памяркоўныя як нацыя і вельмі розныя паасобку. Душа беларуса не вельмі на росхрыст, як у расейца. Сербануўшы досыць гора і нястач, ён ведае кошт кожнай рэчы і капейцы, бо называе яе цяжкай працай. А таму перш падумае, паразважае перадусім, а не рынецца стрымгалоў аказваць тую дапамогу, асабліва там, дзе яна не зусім патрэбная на яго погляд.

Чытач, спадзяюся, здагадваецца, што расповед пойдзе пра зварот Ады Эльеўны Райчонак у "Вольнае Глыбокае" дапамагчы матэрыяльна маладой жанчыне з дзіцём з в. Радзюкі Лідзе Зялёнцы і праз некаторы час – падзяку ад свайго імя і нізкі паклон усім добрым людзям за аказаную Лідзе дапамогу. Чамусьці ад гераіні яе дапісаў – ні слова.

Публікацыі выклікалі ў радзюкоўцаў шырокі і гучны рэзананс. Як кажуць, кругі далёка разышліся па вадзе. Ліда нарадзілася і вырасла ў Радзюках. А ў вёсцы адзін у аднаго на вачах, і шыла ў мяху не ўтоіш, кожны ведае, хто ёсць хто. Водгукі былі розныя: і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя. Адны асуджалі, другія шкадавалі, іншыя зайздросцілі. Толькі чаму? Зразумела, маладой жанчыне шмат прыйшлося перанесці пасылак дадому з паштовага аддзялення. Але ці ўсё ў іх было патрэбнае і жыццёванеабходнае? Паток людской дапамогі ў розных варыянтах быў вялікі. І калі гэта дапамагло ёй прыўзняцца над, магчыма, складанай жыццёвай сітуацыяй, адчаем, нявер'ем у лепшае, дык дзякуй Богу. Цяпер яна вырашыла так, наперадзе ёсць час пераасэнсаваць свой учынак. Мы не маем права асуджаць і апальваць крылы чалавечай дабрыні.

А вось падказаць трэба: па-бацькоўску, па-сяброўску, па-суседску. Гэта ўжо другі бок медаля. Трэба ведаць, што калі бярэш, трэба і аддаваць. Спагадай, дабрынёй, увагай, падтрымкай, ветлівасцю, усмешкай – цеплынёй сваёй душы, што даражэй матэрыяльных каштоўнасцяў для людзей, якія побач. Інакш, хто мы? Эгаісты, спажыўцы, утрыманцы, чэрствыя і бездухоўныя. З прадстаўнікоў такога пакалення выйдзе сацыяльны работнік, пасля візіту якога састарэлай адзінокай жанчыне спатрэбіцца карвалол, урач, які няўважліва паставіўся да скаргі хворага чалавека, чыноўнік, які проста не захоча вырашаць вашы праблемы. Гэта ўсё ўжо ёсць. І вельмі сумна, калі маладыя хлопцы, якія яшчэ не служылі ў войску, працуючыя, а ў большасці не, ідуць спачатку ў бар-кафэ (няведама для чаго ён існуе ў невялікім аграгарадку), а потым у Дом культуры побач. Чым заканчваецца такі "культурны" адпачынак? Кім папоўняцца нашы механізатарскія кадры, калі ў іх адна мара: вялікія заробкі ў Расеі альбо хоць у Мінску? І як вынік: у час уборачнай кампаніі механізатарскія кадры запрашаюць з прадпрыемстваў Наваполацка. Моладзь хоча ўсяго шмат, адразу і без асаблівай напругі.

Вядома, ёсць на сяле прыклады цудоўных працавітых маладых сем'яў. Скажу нават, што іх шмат. Трымаюць на ўласных падворках вялікую гаспадарку, ва ўзорным стане іх сядзібы, апрацоўваюць тэхнікай зямлю і рэшткі сельгаспрадукцыі прадаюць.

Працуюць, стараюцца, трывала стаяць на нагах, у адказнасці за выхаванне і адукацыю сваіх дзяцей, не спадзяюцца на добрага дзядзьку, нездарма ж яны гістарычныя нашчадкі таго продка Радзюка, які шчыраваў дзень і ноч і заснаваў вёску (паводле падання).

Адным словам, выснова такая: каб нешта мець, трэба працаваць, хоць бы па магчымасці, па стане свайго здароўя. "Пад ляжачую калоду вада не цячэ," – кажуць у народзе. А колькі ў Радзюках сталых людзей, якія трымаюць кароў, ходзяць на мыліцах, а ў палісадзе кветкі і ні травінкі ў агародчыку.

Не хачу крыўдзіць Аду Эльеўну (я паважаю яе як працаўніцу, як чалавека ўласнай жыццёвай пазіцыі, якая зрабіла пэўны ўнёсак у духоўнае жыццё сваіх землякоў), але паспрабую мякка і асцярожна сказаць, што не трэба згушчаць фарбы вакол яе гераіні, многія факты скажоныя, па чыёй віне, не ведаю. Няма там галечы ў хаце, трэба прыкласці да ўсяго рукі.

Не трэба адмаўляць і тое, што мацярынства і дзяцінства ў нашай небагатай і невялікай дзяржаве ахоўваецца. Да трох гадоў маці знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку па доглядзе за дзіцяці, яе працоўнае месца захоўваецца. Да двух гадоў адпускаецца бясплатнае харчаванне дзіцяці. Маці, якая выхоўвае дзіця адна, атрымлівае па яго доглядзе больш грошай, чым у поўных сем'ях. Так што есці бульбу ў шалупінні Ульянцы, дачушцы Ліды, не было прычыны. У маладой маці ўласны дом, з палівам праблем няма, яго дастаўляюць своечасова. Застаецца ўладкавацца на працу, Ульянку – у дзіцячы садок. Цяжкасці былі і будуць, як і ва ўсіх бацькоў. Затое ў старасці побач будзе родны чалавек, таму што цяжар адзіноты – гэта вельмі страшная рэч.

Няхай людская дабрыня ўваходзіць у кожны дом: да састарэлых і маладых, шчаслівых і няшчасных, у вялікія сем'і і да адзінокіх людзей. Але да яе трэба адносіцца шчыра, без маны, каб яна не апаліла свае крылы. Іншы раз дабрыня і дапамога людзей сапраўды выратоўваюць чалавека.

І ўсё ж у жыцці трэба спадзявацца на сябе, разлічваць свае магчымасці і жыць па сродках. І галоўнае – працаваць, як і нашы продкі. І паважаць сябе як асобу.

### Дзіцячая творчасць на шляху прадухілення пажараў!!!

# «Выратавальнікі вачамі дзяцей»

У лютым месяцы 2013 года ў Глыбоцкім раёне праводзіўся раённы агляд-конкурс дзіцячай творчасці «Выратавальнікі вачамі дзяцей». Асноўныя мэты конкурсу - прыцягненне ўстаноў адукацыі да правядзення выхаваўчай працы па папярэджанні пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём, навучанне школьнікаў і дашкольнікаў асновам бяспекі жыццядзейнасці, дзеянням у выпадку ўзнікнення пажараў і надзвычайных сітуацый, папулярызацыя прафесіі выратавальніка-пажарніка.



Арганізацыя і правядзенне конкурсу ў раёне былі ўскладзены на Глыбоцкі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях і аддзел адукацыі Глыбоцкага райвыканкама.

Агляд-конкурс праводзіўся па наступных намінацыях: «Малюнак», «Плакат», «Выраб», «Мадэль пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі», «Статуэтка», «Роставая лялька», «Знак пажарнай бяспекі», «Казка», «Верш», «Аповяд».

Да ўдзелу ў аглядзе-конкурсе дапушчаліся толькі індывідуальныя працы.

Узрост удзельнікаў па стане на 01.04.2013 павінен быў быць ад 7 да 17 поўных гадоў. У конкурсе бралі ўдзел навучэнцы школ раёна, пазашкольных аб'яднанняў.

Вынікі раённага агляду-конкурсу падводзіла камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Глыбоцкага РАНС і аддзела адукацыі Глыбоцкага райвыканкама.

Прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам:

**намінацыя «Малюнак»**

2 месца – Рудак Сяргей Юр'евіч, *9 кл., ДУА «Псуеўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

3 месца – Асановіч Уладзіслаў Аляксандравіч, *1 «Г» кл., ДУА «Сярэдняя школа №3 г. Глыбокае»;*

**намінацыя «Выраб»**

2 месца – Семеж Анастасія Іванаўна, *4 кл., ДУА «Галубіцкая ДС-БШ Глыбоцкага раёна»;*

3 месца – Пятрова Анастасія Фёдараўна, Парфяновіч Алеся Алегаўна, Сайкоўская Валерыя Віталеўна, *майстэрня «Дэкаратыўны дызайн» ДУА «Цэнтр дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна»*

**намінацыя «Плакат»**

1 месца – Піскуновіч Андрэй Юр'евіч, *4 кл., ДУА «Кіраўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

2 месца – Міхалевіч Валерыя Васільеўна, *7 клас ДУА «Шунеўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

**намінацыя «Статуэтка»**

1 месца – Ледаховіч Юлія Валянцінаўна, *9 кл., ДУА «Шуневіцкая ДС-БШ Глыбоцкага раёна»;*

***намінацыя «Знак пажарнай бяспекі»***

3 месца – Кміта Канстанцін Юр'евіч, *10 кл., ДУА «Прошкаўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

**намінацыя «Аповяд»**

1 месца - Заблоцкая Вікторыя Аляксандраўна, *9 клас ДУА «Шунеўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

2 месца - Протас Максім Сяргеевіч, *6 кл. ДУА «Прошкаўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

3 месца – Сапуноў Аляксей Сяргеевіч, *6 кл. ДУА «Азярэцкая ДС-СШ Глыбоцкага раёна»;*

**намінацыя «Казка»**

1 месца – Калантай Алена Міхайлаўна, *7 кл.* ДУА *«Гатаўшчынская ДС-БШ Глыбоцкага раёна»;*

1 месца – Зуй Наталля Сяргееўна, *6 кл. ДУА «Зябкаўская ДС-БШ Глыбоцкага раёна»;*

2 месца – Лапацкая Марыя Станіславаўна, *8 кл. ДУА «Суклінская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»*

2 месца – Дударонак Яна Аляксандраўна, *5 кл. ДУА «Зябкаўская ДС-БШ Глыбоцкага раёна»;*

**намінацыя «Верш»**

1 месца – Папоў Аляксандр Ігаравіч, *10 кл. ДУА «Чарневіцкая СШ Глыбоцкага раёна»;*

2 месца – Бажок Паліна Дзмітрыеўна, *7 кл. ДУА «Падсвільская СШ Глыбоцкага раёна»;*

2 месца – Яцкоўская Алена Канстанцінаўна, *7 кл. ДУА «Падсвільская СШ Глыбоцкага раёна»;*

3 месца – Бурэнь Наталля Пятроўна, *9 кл. ДУА «Кіраўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна»*

Работы дзяцей, якія занялі прызавыя месцы на раённым аглядзе-конкурсе, адпраўлены для ўдзелу ў абласным аглядзе-конкурсе дзіцячай творчасці.



# Мінгандаль: Пры выкарыстанні чужой карткі работнік гандлю мае права не абслугоўваць пакупніка

**Пры выкарыстанні чужой карткі работнік гандлю мае права не абслугоўваць пакупніка. Пра гэта нагадаў прэс-сакратар міністра гандлю Дзмітрый Маліноўскі, каментуючы БелаПАН ліст, разасланы міністэрствам ва ўпраўленні гандлю абласных выканкамаў і ў Мінгарвыканкам.**

Паводле слоў прэс-сакратара, ліст быў адпраўлены 4 сакавіка «з мэтай абараніць трымальнікаў пластыкавых картак і ўзмацніць эфектыўнасць працы плацежных тэрміналаў».

«Плацежны сродак – а банкаўская картка з`яўляецца плацежным сродкам – толькі ваш. Калі вы перадаяце яго іншаму чалавеку, то вы гэтага чалавека можаце ўвесці ў вельмі непрыемную сітуацыю, — падкрэсліў Дзмітрый Маліноўскі. — За мяжой, калі вы перадаяце плацежны сродак іншай асобе, то карта можа быць канфіскавана, нават штраф могуць даць, гэта вельмі сур`ёзна».

Як удакладніў прэс-сакратар, ліст носіць рэкамендацыйны характар, «гэта не даручэнне».

«Гэта не значыць, што работнік будзе патрабаваць ад вас ледзь не напісання аўтабіяграфіі. Магчыма, могуць запатрабаваць дакумент, які сведчыць асобу.

Гаворка ідзе пра выкананне элементарных патрабаванняў і правілаў інструкцыі па абслугоўванні трымальнікаў картак, каб чужы чалавек не меў доступу да сродкаў, якія ляжаць на картцы», — падкрэсліў Маліноўскі.

Мінгандаль рэкамендуе персаналу аб`ектаў гандлю забяспечыць выкананне «Інструкцыі па абслугоўванні трымальнікаў картак у арганізацыях гандлю і сэрвісу з выкарыстаннем плацежных тэрміналаў» і абсталяваць працоўныя месцы неабходнымі для падключэння плацежных тэрміналаў камунікацыямі (наяўнасць свабоднай тэлефоннай лініі, разетак, падключэння да інтэрнэту).

«Гаворка ідзе найперш аб тым, каб узмацніць кантроль за выкананнем персаналам арганізацый гандлю і сэрвісу патрабаванняў па абслугоўванні трымальнікаў картак і выкарыстаннем плацежных тэрміналаў. Бо чым больш будзе тэрміналаў, тым лягчэй будзе разлічыцца за тавар, тым больш таваараабарот», — рэзюмаваў Дзмітрый Маліноўскі.

***Ганна Афоніна, БелаПАН.***

# У Беларусі пачалася еўрапейская кампанія назірання за птушкамі «Жывая вясна»

**У Беларусі пачалася еўрапейская кампанія назірання за птушкамі «Жывая вясна». Яе мясцовым арганізатарам выступае грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).**

Як паведаміла БелаПАН каардынатар кампаніі ад АПБ Вольга Гарадніцкая, мэта традыцыйнай акцыі прыцягнуць людзей да назірання за вясновай міграцыяй птушак.

Усяго ў кампаніі сёлета ўдзельнічаюць прыкладна 40 еўрапейскіх краін. Усім ахвотным прапануецца паназіраць за пяццю відамі птушак, якія прылятаюць вясной, белым буслам, вясковай ластаўкай, зязюляй, чорным стрыжом, залацістай шчуркай, а затым размясціць інфармацыю пра від птушак, іх колькасць, дату і месца назіранняў на сайце www.springalive.net. На карце, размешчанай на сайце, аматары прыроды змогуць назіраць вясновую міграцыю птушак: па меры росту колькасці назіранняў яна набывае ўсё больш насычаны колер, які сведчыць аб прыходзе вясны. Акрамя таго, на сайце можна знайсці апісанне пяці відаў птушак, якія назіраюцца ў межах кампаніі.

Як адзначыла Гарадніцкая, у Беларусі ў межах кампаніі «Жывая вясна» пакуль паступіла толькі адно паведамленне пра заўважанага бусла. Аднак арнітолагі мяркуюць, што гэта птушка зімавала ў Беларусі, а не прыляцела ў краіну з паўднёвых рэгіёнаў Еўропы. Чакаецца, што назіранні за вясновай міграцыяй птушак актывізуюцца з надыходам цёплага вясновага надвор'я.

Паводле слоў прадстаўніка АПБ, летась з Беларусі падчас кампаніі «Жывая вясна» паступіла больш як 1.300 назіранняў, па іх колькасці краіна была на сёмым месцы сярод 39 краін-удзельніц. Усяго ў межах кампаніі летась паступіла звыш 173.000 назіранняў за птушкамі ад жыхароў Еўропы.

Паводле слоў спецыяліста, традыцыйна кампанія працягваецца да пачатку лета. На працягу ўсяго сезона «Жывой вясны» АПБ будзе арганізоўваць розныя мерапрыемствы экскурсіі, інфармацыйныя і наглядальныя пляцоўкі.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***



## Віншаванкі

*Галіну Вікенцьеўну Самсонаву*

**Віншуем з нагоды юбілейнага Дня народзін!**



Юбилей красивый, две пятерки,
Цифра хороша, как ни крути,
Позади препятствия и горки,
Счастье и здоровье впереди!

Позади учеба и женитьба,
Впереди — подарки от детей,
Все сложилось, устоялось в жизни,
И за это каждому налей!

Поздравляю и желаю счастья,
Прибыли, чудес, и «сбычи мечт»,
И здоровья, и богатства, кстати,
Пью бокал в твою, родная, честь!

*Муж, сыны, нявестка і ўнучкі*

## МНС інфармуе
**на 11.03.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 244;
Гібель людзей – 45, з іх 1 дзіця;
Урон –1918.8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 16;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма;
Урон – 191.6 руб.

Паважаныя жыхары г. Глыбокае і раёна!

# «Бяспека дзяцей залежыць ад дарослых!»

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**З 11 па 21 сакавіка 2013 года па Віцебскай вобласці супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі ў Рэспубліцы будзе праведзены комплекс прафілактычных мерапрыемстваў пад назвай «Бяспека дзяцей залежыць ад дарослых!»**

Мэта дадзеных мерапрыемстваў-прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму напярэдадні і падчас вясновых вакацый.

Скончылася зіма. Падыходзіць час правядзення вясновых вакацый для школьнікаў.

**Паважаныя бацькі і педагогі!** Мы з Вамі ў адказе за жыццё кожнага дзіцяці. Бяспека дзяцей першым чынам – клопат дарослых. Навучаючы сёння дзяцей бяспечнаму руху на вуліцах і дарогах, мы не толькі праяўляем клопат за іх жыццё і здароўе, але і забяспечваем будучыню. Перад тым, як адправіць дзяцей за парог свайго дома, нагадайце ім пра элементарныя правілы паводзін на вуліцы.

Ужо сёлета на дарогах вобласці здзейснена 5 дарожна-транспартных здарэнняў у выніку якіх 5 дзяцей атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжару. Нагадваем, што пасля зімы, дзеці становяцца больш жвавымі і часцяком з-за сваёй няўважлівасці дапушчаюць элементарныя парушэнні ПДР, якія могуць наўпроста стаць прычынай трагедыі.

Будзьце заўсёды прыкладам для свайго дзіцяці, бо ён як губка ўбірае Вашы няправільныя паводзіны ці будзе гэта пры пераходзе вуліцы, або пры ігнараванні сігналаў святлафора і г.д. Бо менавіта дарослыя ўплываюць на дзіця непасрэднымі прыкладамі паводзін. Парушаючы Правілы, вы закладваеце аснову будучай трагедыі.



Хацелася б нагадаць, што з сакавіка выязджаюць на вуліцы горада і раёна матацыклісты і веласіпедысты. Звяртаемся да бацькоў з просьбай пра пастаянны кантроль з іх боку за паводзінамі іх дзяцей у адносінах эксплуатацыі матацыклаў, мапедаў і ровараў. З боку Дзяржаўтаінспекцыі і інспекцыі па справах непаўналетніх Глыбоцкага РАУС па дадзеных пытаннях будзе праведзена мэтанакіраваная работа і цвёрды попыт з бацькоў, якія дазваляюць эксплуатаваць як мотатранспарт, так і ровары.

**Паважаныя кіроўцы!** Нагадваю Вам аб прояве ўважлівасці да маленькіх пешаходаў, бо яны пасля зімы праяўляюць няўважлівасць і празмерную жвавасць.

**Рэкамендуем у перыяд правядзення мерапрыемстваў перасоўвацца ў светлы час сутак з уключаным блізкім святлом фар.**



# Толькі аднымі штрафамі парадак мы не навядзём

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Найвялікшым нацыянальным здабыткам Беларусі заўсёды была і застаецца прырода. Ад стану навакольнага асяроддзя шмат у чым залежыць лёс дзяржавы. Маючы багатыя прыродныя рэсурсы, дзяржава можа паўнавартасна развівацца і мы, грамадзяне, абавязаны ўсяляк садзейнічаць захаванню нашых багаццяў.**

Здзіўляе экалагічная дзікасць людзей, дачнікаў, аўтамабілістаў, грыбнікоў, паляўнічых, рыбакоў, якія пасля сябе пакідаюць горы смецця, пластыкавых бутэлек, слоікаў. Колькі не стаў кантралёраў, усё адно за ўсім не ўсочыш, толькі мы самі можам выратаваць сябе і прыроду ад дэградацыі. Дэградуе прырода – дэградуе чалавек. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штогод прыцягваюць да адказнасці дзясяткі грамадзян за выкід смецця, самавольную парубку дрэваў, браканьерства, але толькі аднымі штрафамі парадак мы не навядзём.

Нягледзячы на значнае павелічэнне штрафных санкцый за браканьерства, на жаль, парушальнікаў менш не становіцца.

Так, 5 сакавіка 2013 года інспектарамі міжрайінспекцыі ў лясным масіве на тэрыторыі Шаркоўшчынскага раёна затрыманы грамадзянін Н., які незаконна зрэзаў 12 дрэў асіны і яліны, дакументаў на права рубкі ў яго не было. Падчас апытання затрыманы шчыра здзівіўся, што за парушэнне ён здзейсніў? Грамадзянін Н. адказаў інспектарам: «Я жыву тут усё жыццё і сек заўсёды, колькі хацеў!» Аднак зараз прыйдзецца адказваць за дапушчанае парушэнне.

Глыбоцкі раённы суд разгледзеў адміністрацыйны матэрыял у адносінах жыхара в. Івесь Глыбоцкага раёна грамадзяніна Толкач, які 27 студзеня 2013 года груба парушыў правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, а менавіта знаходзіўся з паляўнічай стрэльбай без паляўнічай пуцёўкі ў зоне вядзення палявання на капытных. Сябры парушальніка, якія ў момант затрымання таксама знаходзіліся з ім у машыне, усяляк спрабавалі заблытаць суд, давалі ілжывыя сведчанні, спрабавалі пераканаць суд, што інспектары груба сябе вялі з затрыманым, але ацаніўшы ўсе сабраныя доказы, у тым ліку фота і відэазапісы, а таксама прызнанне затрыманым сваёй віны, суд вынес мінімальнае пакаранне грамадзяніну Толкачу – штраф у памеры 10 базавых велічынь і 6 месяцаў пазбаўлення права палявання.

Хутка пачнецца вясновы нераст рыбы і супрацоўнікі міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян аказаць садзейнічанне ў ахове рыбалоўных угоддзяў ад браканьераў, паведамляць інспектарам пра ўсе здзейсненыя факты браканьерства і парушэнні. Толькі ўсе разам мы зможам супрацьстаяць браканьерам, а ў нашых рэках і азёрах павялічыцца колькасць рыбы.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерамі.

Тэлефоны «гарачай лініі»: 8-02156- 28670 - кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 МТС.

# Праблема гвалту ў дачыненні да жанчын – адна з дамінуючых у сямейных адносінах, лічаць спецыялісты

**Праблема насілля ў дачыненні да жанчын адна з дамінуючых у сямейных адносінах, заявіла старшыня Камітэта па працы, сацыяльнай абароне і занятасці Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, член прэзідыума Беларускага саюза жанчын Жанна Рамановіч 7 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яе слоў, для папярэджання і прафілактыкі сямейнага насілля ў Мінскім гарадскім цэнтры па сацыяльным абслугоўванні сем'яў і дзяцей створаны пункты, дзе жанчынам аказваюць кансультацыйную і псіхалагічную дапамогу. На базе Першамайскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання працуе крызісны пакой, куды любая жанчына можа звярнуцца па дапамогу і падтрымку. За 2012 год амаль 300 жанчын звярталіся ў крызісны пакой па праблеме сямейных канфліктаў і насілля ў сям'і.

Як паведаміла Рамановіч, у сувязі з захаваннем праблемы дамашняга насілля да канца 2013 года плануецца пашырыць аддзяленне «Раннія роды» на базе школы-інтэрната № 5. На яго базе маладая парадзіха мае магчымасць атрымаць пакой і псіхалагічную дапамогу, а таксама падтрымку ў прафесійнай дзейнасці. З маладымі мамамі працуюць сацыяльныя педагогі і выхавальнікі, яны могуць пакінуць дзіця пад доглядам прафесіяналаў, каб раней выйсці на працу.

На думку прадстаўніка Мінгарвыканкама, праблема насілля ў сям'і першачарговая ў сталіцы, як і ў іншых рэгіёнах. «У галіне адукацыі, аховы здароўя, нават прафесійнай дзейнасці правы жанчын забяспечаныя ў роўнай ступені. У эканоміцы горада больш чым 54% гэта жанчыны, у прамысловасці больш чым 57%», сказала Рамановіч.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

